№ 128 (250)
Аўторак, 29 ліпеня 1997 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў
у тыдзень
Выдавец — ТАА "Народная воля"
Кошт: у кіёсках і крамах — 2000 руб., у індывідуальных гандляроў — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб Колас**

# Народная Воля



**Сонца**

| | Усход | Заход |
|---|---|---|
| Віцебск | 5.00 | 21.10 |
| Магілёў | 5.06 | 21.03 |
| Гомель | 5.10 | 20.54 |
| Мінск | 5.16 | 21.14 |
| Гродна | 5.33 | 21.28 |
| Брэст | 5.40 | 21.22 |

*Маладзік3 жніўня.*



**Дыпламатычны кур'ер**

## У Беларусі акрэдытаваны пасол Ірака

Беларусь зацікаўлена ў развіцці ўзаемавыгаднага гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва з такой багатай і магутнай дзяржавай Азіі, якой з'яўляецца Ірак.

Двухбаковае гандлёва-эканамічнае супрацоўніцтва ў 1992—1996 гадах з прычыны дзеяння рэжыму санкцый Савета Бяспекі ААН у адносінах да Ірака поўнасцю адсутнічала. Тым не менш у гэтых узаемаадносін ёсць значны патэнцыял, назапашаны таваравытворцамі, вучонымі і будаўнікамі абедзвюх краін яшчэ з часоў існавання Савецкага Саюза. У перыяд пасля зняцця санкцый ААН Ірак будзе ўяўляць цікавасць для Беларусі ў першую чаргу як буйны імпарцёр прадукцыі беларускага машынабудавання. Іракскі бок таксама не раз выказваў зацікаўленасць у набыцці беларускай сельскагаспадарчай тэхнікі.

*Даведка*

**ХАСАН ФАХМІ ДЖУМА**

Нарадзіўся ў 1937 годзе ў Багдадзе. У 1959 годзе закончыў Багдадскі універсітэт, атрымаўшы ступень бакалаўра сельскагаспадарчых навук 1-й ступені. Удасканальваў адукацыю ва універсітэтах штатаў Вісконсін і Мінесота (ЗША).

З 1959 па 1993 год займаў розныя пасады ў аграрным сектары кіравання іракскай эканомікі. У 1974 годзе назначаны міністрам сельскай гаспадаркі і аграрнай рэформы Ірака, а ў 1977 годзе — саветнікам міністра вышэйшай адукацыі і навуковых даследаванняў.

На дыпламатычнай рабоце Хасан Фахмі Джума з 1993 года.

З 1994 года — Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Ірак у Расійскай Федэрацыі, з 1995 года — па сумяшчальніцтву пасол ва Украіне.

## Інтарэсы Зімбабве ў Беларусі прадстаўляе Джэвана Бек Масека

Джэвана Бек Масека нарадзіўся ў студзені 1943 года. Атрымаў адукацыю ва універсітэце Зімбабве па спецыяльнасці "Адміністрацыйнае кіраванне". У сямідзесятых гадах прымаў удзел у вызваленчым руху пад эгідай Патрыятычнага фронту Зімбабве (ЗАПУ). Пасля заваявання Зімбабве незалежнасці атрымаў званне генерал-маёра Нацыянальнай арміі.

З 1992 года — на дыпламатычнай рабоце. У 1992—1994 гадах — пасол сваёй краіны ў Алжыры. З лютага 1995 года — пасол у Расійскай Федэрацыі.

Жанаты, мае дваіх дзяцей.

**Вадзім МІЛІЦЫН, БелТА.**

**"Непричесанное" письмо**

## ...А начальство правит бал. Ему не до "алкоголиков"

### Письмо из лечебно-трудового профилактория

Пишу и надеюсь, что вы не отложите мое письмо в дальний ящик. Может, прочитав его на страницах вашей газеты, чиновники из высших силовых структур обратят внимание на беззаконие, которое творится в нашем лагере. Я предвижу, как кто-то ухмыльнется и скажет про себя или вслух: "А что они еще хотят, эти алкоголики?" Но мы тоже люди и если решили лечиться, то вправе рассчитывать на нормальное отношение к себе.

Воду в нашем лагере администрация не пьет. Им привозят чистую в термосах. Нам можно пить и такую: грязную, с плавающими масляными пленками.

В столовой больные туберкулезом люди питаются вместе со здоровыми. Посуда затем никакой термообработке не подвергается, просто споласкивается в общей раковине. На всю столовую три черпака.

Поступают в отряд новые люди, общаются с нами, а потом, спустя время, им делают анализ крови, и мы узнаем, что они больны сифилисом или другой венерической хворобой.

После бани тело покрывается прыщами. Постельное белье, если его так можно назвать, меняют раз в три недели. Мыло выдают на пару месяцев по 30 граммов. Мойся, как хочешь.

В штрафном изоляторе люди содержатся в камерах-туалетах. Стены камеры постоянно влажные от сырости, кругом грязь, вши. Люди спят на бетонном полу. Теплую одежду брать в камеру не разрешают. Там же, в камере, находится и унитаз, должного напора воды в котором никогда не бывает. Можете себе представить, какой там стоит запах.

А начальство лагеря правит бал. Живут в прекрасных домах, ездят на красивых машинах. А знаете почему? Потому что мы делаем шкатулки и хлебницы, которые они реализуют на свободе. Конечно, неучтенные. У них даже есть собственные мастерские в промышленной зоне лагеря. Подобного не было даже при коммунистах. Теперь же все возможно. И все безнаказанно.

Надеюсь, что, прочитав мое письмо, к нам приедет проверка. И еще надеюсь на то, что приедет она внезапно, не предупреждая заранее администрацию лагеря. Только тогда приехавшие убедятся, что в моем письме нет и капли неправды.

**Александр ВАСИЛЕВСКИЙ,**
г.Новогрудок-5В.

***От редакции.** Автор уверяет нас в том, что написал чистую правду. К сожалению, у редакции нет возможности проверить каждое его слово. Да и наводить порядок в спецпрофилакториях — дело специалистов, входящих в систему Министерства внутренних дел, а также в систему Министерства здравоохранения. Мы и обращаемся к ним: не оставьте, пожалуйста, это письмо без внимания. О результатах его рассмотрения "Народная воля" обязательно сообщит читателям.*

**Дума пра хлеб**

## Ці дапамогуць вяскоўцам запасціся фосфарам?

Хутка сяўба азімых культур, і вяскоўцы ўжо назапашваюць для яе правядзення мінеральныя ўгнаенні. На сённяшні дзень у гаспадарках рэспублікі іх пакуль што ёсць не больш чым трэць ад навукова абгрунтаванай патрэбнасці. Пры гэтым забяспечанасць азотам складае 73 працэнты, каліем — 35, а фосфарам і таго менш — 17 працэнтаў.

Паводле даных Мінсельгасхарча, да пачатку сяўбы Гомельскі хімзавод зможа паставіць у калгасы і саўгасы краіны каля трыццаці тысяч тон фосфарных тукаў. Акрамя таго, вядуцца перагаворы аб закупках іх за мяжой, у прыватнасці ў Літве. Пры ўмове рэалізацыі гэтых планаў рэспубліка будзе поўнасцю забяспечана дастатковай колькасцю мінеральных угнаенняў пад азімую сяўбу.

Аднак набыць такую колькасць тукаў без дзяржаўнай дапамогі гаспадаркі краіны не змогуць. Паводле слоў спецыялістаў галіновага міністэрства, пакуль што невядома, ці захаваецца старая схема разлікаў, пры якой калгасы і саўгасы плацяць за ўгнаенні толькі дваццаць працэнтаў іх кошту, а астатнія выдаткі кладуцца на рэспубліканскі і мясцовы бюджэты.

**Дзмітрый ФЁДАРАЎ, БелТА.**

**Криминал**

## Присмотритесь к товару рекламных агентов, в офис ваш заглянувших

Второй раз жертвой любителей легкой наживы стал Центр поддержки предпринимательства, что в Минске.

Не так давно, взломав дверь, воры проникли в кабинет директора и похитили факсимильный аппарат и переносной компьютер типа "Notebook". А на сей раз они "увели" факсимильный аппарат и системный блок IBM-386.

Сотрудники правоохранительных органов отметили одно существенное совпадение: обе кражи произошли после того, как Центр посетили некие рекламные агенты. Не исключено, что у них и "осела" дорогостоящая аппаратура. А посему Министерство внутренних дел предупреждает: если к вам в офис заглянут рекламные агенты, предлагающие сложную бытовую технику без документов или со "скидкой", присмотритесь к ним повнимательней. Не исключено, что аппаратура ворованная, и в случае розыска ее документов вы останетесь и без денег, и без товара.

**Мария ВИКТОРОВА.**

## Злажыў галаву з-за макавых галовак

Двое непрацуючых жыхароў гарпасёлка Лельчыцы, 22 і 23 гадоў, ноччу пранiклі на прысядзібны ўчастак 55-гадовага жыхара вёскі Ліпляны Лельчыцкага раёна. Мэтай іх вылазкі стаў мак, што рос на плантацыі, галоўкі якога яны і зрэзвалі.

Заўважыўшы на сваім участку няпрошаных гасцей, гаспадар схапіў незарэгістраваную паляўнічую стрэльбу, якая захоўвалася ў доме, і выстраліў. Зарад трапіў у спіну малодшаму з начных злодзеяў. Дастаўлены ў бальніцу, ён на наступны дзень памёр. Па гэтаму факту вядзецца разбор.

**БелТА.**

**Сумна!**

## Не стала Федэратыўнай...

Вёска з такой нязвыклай для беларускай мовы назвай знікла з карты Сенненскага раёна. Не перайменавалі яе, а проста ўжо даўно там няма жыхароў, ды і будынін, прыгодных для жылля. Вось сесія Ульянавіцкага сельскага Савета дэпутатаў вырашыла зняць гэты населены пункт з уліку, а заадно — і вёску Ганчарова, якая апынулася ў такім жа становішчы.

А наконт перанайменя, дык у даўнія ўжо часы, паслярэвалюцыйныя, тагачасныя рамантычна-ўзнёслыя невукі-кіраўнікі вырашылі чамусьці, што Торбінка — занадта ўжо абразліва гучыць пры Савецкай уладзе. Ну і вынайшлі што ні на ёсць адпаведную назву — Федэратыўная...

У тым жа сельсавеце і другая Торбінка была. Яна стала называцца Партызанамі. Існуе пакуль што.

Разам з Федэратыўнай і Ганчаровым не стала ў раёне вёсак Шэбіна, Цеалінава і Каўрыжкі. Па той самай прычыне — няма жыхароў.

**Іван ЛАЗУКА.**

## Гаспадыні знойдзены

21 ліпеня на станцыі Баранавічы—Цэнтральны нарад патрульна-паставой службы транспартнай міліцыі знайшоў дзве безгаспадарныя сумкі з 26 кг макавай саломкі. І вось нарэшце супрацоўнікі аддзела па барацьбе з незаконным абаротам наркотыкаў УУСТ і крымінальнага вышуку Баранавіцкага АУСТ устанавілі і затрымалі разявак-гаспадынь. Імі аказаліся дзве непрацуючыя маладыя жанчыны. Адна з іх — жыхарка вёскі Русіна Баранавіцкага раёна, другая прапісана ў самім райцэнтры. Макавую саломку яны везлі з Украіны ў Смаленск для продажу.

**Сяргей ЦІВАНАЎ.**

## Такім быў Мінск...

У Троіцкім прадмесці адкрылася выстаўка беларускага мастака Георгія Скрыпнічэнкі "Гарадскія матывы".

У экспазіцыі прадстаўлены акварэлі, створаныя мастаком яшчэ ў час яго вучобы ў мастацкім вучылішчы ў 1961—1963 гадах. На іх наведвальнікі змогуць убачыць тыя месцы беларускай сталіцы, якія з цягам часу былі забудаваны нанава, а таксама існуючыя цяпер дамы і вулачкі такімі, якімі яны былі больш чым тры дзесяткі гадоў таму назад. Гэта выстаўка прысвечана 930-годдзю Мінска, і, як падарунак гораду, арганізатары зрабілі на яе ўваход бясплатным.

**БелТА.**

**Стоп-кадр**

## Надакучыла пушча векавая?

Волат-цар нашых лясоў, што крочыць мажна з міліцэйскім эскортам на матацыкле пад цікаўнымі позіркамі шматлікіх зявакаў узбоч вуліцы, — сцэна, добра памятная многім жыхарам Беларусі. У канцы 70-х і пачатку 80-х гадоў на палетках, вясковых вуліцах, ля фермаў, на дарогах Капыльскага, Слуцкага, Салігорскага і іншых раёнаў Міншчыны сталі паяўляцца пакінуўшыя па невядомай прычыне Белавежскую пушчу зубры. Яны паводзілі сябе даволі мірна, нават прымалі з рук падлеткаў корм, дазвалялі пагладзіць рукой па шырокай спіне. Да канфліктаў справа, здаецца, нідзе не даходзіла. Адзін з такіх вандроўнікаў у верасні 1980 года нават зайшоў у г.Капыль, дзе яго на спуску з самай вялікай гары (а іх у горадзе з дзесятак) і сфатаграфаваў супрацоўнік райгазеты Іван Ігнатчык. Адзін здымак падараваў мне — на памяць. Думаю, што ён зацікавіць чытачоў "Народнай волі".

**Міхась ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

**Эканамічны каментарый**

## Хто шыкуе, а хто ледзь зводзіць канцы з канцамі

**У дзяржаўных сродках масавай інфармацыі нямала гаворыцца аб клопатах прэзідэнта пра свой народ. Ці так гэта на самой справе? Давайце прааналізуем, як жывецца людзям пры цяперашняй уладзе. Найлепшым крытэрыем тут з'яўляюцца сумы зарплаты і цэны на асноўныя прадукты і тавары.**

**Спачатку пра цэны. Яны імкліва скачуць уверх. Так, у чэрвені ў параўнанні са снежнем мінулага года яны выраслі: на агародніну — у 2,5 раза, на цукар — у 2 разы, на маргарын — у 1,6 раза, на масла і кандытарскія вырабы — у 1,5 раза, безалкагольныя напіткі — на 48,6%, муку — на 47,8%, хлеб, мясныя кансервы, рыбу, алкагольныя напіткі — на 43—44%, каўбасы і макароны — на 39—41%, мяса і птушку, малочныя прадукты — на 31—35%.**

**Цэны на прадпрыемствах грамадскага харчавання павялічыліся ў 1,5 раза.**

**А што з зарплатай? Яна засталася амаль такой жа, якой і была. Памер рэальнай заработнай платы, налічанай у студзені—маі 1997 года ў параўнанні з такім жа перыядам мінулага года, узрос толькі на 8%. Вось вам і ўсе "клопаты".**

**Амаль такі ж малюнак і з нехарчовымі таварамі. У параўнанні са снежнем мінулага года цэны на веласіпеды выраслі ў 1,9 раза, на матацыклы і халадзільнікі — у 1,7 раза, бензін, тытунёвыя вырабы — у 1,6 раза, легкавыя аўтамабілі — у 1,5 раза, будаўнічыя матэрыялы — на 46,3%, медыкаменты — 38,4%, мэблю, посуд, мыла, галантарэйныя рэчы — на 30—32%. За паўгода цэны на паслугі культуры выраслі ў 1,9 раза, дашкольных устаноў — на 49,9%, грамадскага транспарту, прававога характару, турыстычна-экскурсійныя — на 47—48%, санаторна-курортныя — на 39,3%, жыллёва-камунальныя і аховы здароўя — на 35%.**

**Словам, куды ні ткніся — плаці на 40—50 працэнтаў болей, а то і ў 1,5—2 разы. А рэальная зарплата павялічылася толькі на 8 працэнтаў. Вось і жыві.**

**Праўда, яе нізкія сумы не ва ўсіх. У чыноўнікаў і міліцэйска-судовай праслойкі яна не маленькая. Так, зарплата мытнікаў у маі склала 5,6 мільёна рублёў, банкіраў і органаў гаспадарчага кіравання — болей за 3,8 мільёна рублёў, судовых і юрыдычных устаноў — 3,2 мільёна рублёў, што ў 1,6—2,8 раза болей за сярэднюю зарплату па краіне.**

**А вось у калгаснікаў заробак у маі склаў толькі 1,1 мільёна рублёў, што на 40% ніжэй за сярэднюю зарплату па краіне. Нізкія заробкі ў работнікаў мастацтва і культуры — каля 1,5 мільёна рублёў. Да таго ж, яны выплачваюцца нерэгулярна. Запазычанасць па зарплаце па стану на 25 чэрвеня склала 686 мільярдаў рублёў, ці 12,2% ад агульнага фонду зарплаты.**

**Чаму зарплата калгасніка, які працуе ў полі і на ферме ад цямна да цямна, амаль у тры разы меншая, чым у суддзі і ўпраўленца-чыноўніка, і ў пяць разоў меншая, чым у мытніка? Чаму таленавіты мастак і работнік культуры атрымлівае ў два разы меней за чыноўніка, які не стварае ніякіх каштоўнасцей? Чаму на мяжу жабрацтва пастаўлены самыя важныя слаі грамадства — земляробы і людзі мастацтва? Таму, што першыя цярпліва маўчаць, а другія крытыкуюць прэзідэнта? Чаму не шкадуюць грошай чыноўнікам і "сілавікам"? Таму што яны верна служаць рэжыму?**

**Нямала паўстае такіх пытанняў. І хацелася б пачуць на іх сумленныя і шчырыя адказы. Бо грамадства, у якім недаядаюць тыя, хто стварае ўсе каштоўнасці — як матэрыяльныя, так і духоўныя, і шыкуюць тыя, хто іх не стварае, а толькі ўгодліва служыць рэжыму, — такое грамадства не мае будучыні.**

**Андрэй РУСАКОВІЧ.**

## З усяго свету збярэ народ харэаграфічны фестываль "Сожскі карагод"

Адметная з'ява адбудзецца сёлета ў Гомелі. "Сожскі карагод" — пад такой назвай ладзіцца Міжнародны тэатралізаваны фестываль харэаграфіі. З 19 па 21 верасня лепшыя танцавальныя калектывы Беларусі, блізкага і далёкага замежжа пакажуць сваё майстэрства на канцэртных пляцоўках горада.

Конкурсная праграма фестывалю ўключае чатыры напрамкі — фальклорна-этнаграфічны, бальна-спартыўны, народна-сцэнічны і класічны танец. Каля 2,5 тысячы гасцей фестывалю возьмуць удзел у конкурсных дзействах, гала-канцэрце ды імпрэзах, прысвечаных святкаванню 855-годдзя горада Гомеля і 200-годдзю Дварцова-паркавага ансамбля Румянцава-Паскевіча.

Як спадзяюцца арганізатары "Сожскага карагоду", тры дні канцэртаў, творчых сустрэч, стасункаў з калектывамі-ўдзельнікамі паспрыяюць развіццю харэаграфічнага мастацтва, павышэнню выканаўчага ўзроўню калектываў, узбагачэнню іх рэпертуару лепшымі ўзорамі харэаграфічнай творчасці. Для спецыялістаў жа конкурс — дадатковая магчымасць скарыстаць свой творчы патэнцыял.

Ужо вядома, што да свята змогуць далучыцца танцоры з Англіі і Расіі. Запрашэнне ўдзельнічаць у фестывалі атрымалі калектывы і індывідуальныя выканаўцы з Кітая, Францыі, Польшчы і іншых краін.

Як адзначалася на прэс-канферэнцыі, у падрыхтоўцы і правядзенні такога маштабнага свята творчасці аргкамітэт спадзяецца на падтрымку і дапамогу прадпрыемстваў горада і вобласці.

Асноўная мэта фестывалю — далучыць як мага больш жыхароў нашага горада, вобласці ды й рэспублікі да высокага і спрадвечнага мастацтва. Дабратворны кожны кантакт з культурай, асабліва калі вытокі гэтай культуры — ад першых дзён чалавецтва, калі яе глыбока нацыянальная сутнасць зразумела ўсім без усялякіх моўных бар'ераў.

**Прэс-цэнтр фестывалю.**

**Задумаемся?**

## Здыміце, бабулька, трэснутыя акуляры. Праз іх лепей не глядзець на... іх кошт

Мне заўсёды было шкада людзей старэнькіх, нямоглых і... вельмі залежных ад своечасова ці са спазненнем атрыманай пенсіі. І хаця кіраўніцтва дзяржавы ў апошні час робіць усе захады, каб старыя, асабліва франтавікі-інваліды, у строга азначаны тэрмін атрымлівалі свае зробленыя перад выхадам, як казалі раней, на заслужаны адпачынак грошы, усёй іх удзячнасці хапае хіба што да наведвання бліжэйшага магазіна ці аптэкі, у "таварах" якіх яны маюць асаблівую патрэбу.

...На гэты раз я стаў сведкам "драмы", што разыгралася ў медыцынскай установе з іншай яркай шыльдай "Оптика", што насупраць Тэатра музычнай камедыі.

У бабулькі, што звярнулася да прыёмшчыцы, каб пацікавіцца, колькі будзе каштаваць замена разбітага шкла ў акулярах, аж скiвіца адвісла... ад пачутага. Жах, роспач, задуменнасць — адно пачуццё замяняла другое. Але крыху "ачуняўшы", наведвальніца вымавіла:

— Ды на гэтыя ж грошы я не толькі тыдзень, а ўсе дзесяць дзён пражыву. Лепей глядзець праз трэшчыну на свет божы, чым апустошваць свой партаманет, хадзіць з працягнутай рукой...

Падумалася, да якога ж паўжабрацкага стану трэба давесці свой народ, каб праблемай было набыць-прыдбаць тыя ж акуляры ці нават замяніць шкло ў аправе. З цікавасцю я паглядзеў на "цэннікі": дзіцячыя аправы — 118000 (самыя танныя), 180000, 250000, 380000, 560000 рублёў, мужчынскія — 470000, 650000, 980000, 1 млн. 200 тысяч, 1 млн. 500 тысяч, 1 млн. 800 тысяч, 2 млн. 500 тысяч...

І калі праз пяць хвілін я атрымаў свой "заказ" (а трэба было выправіць адну з дужак) і аплаціў за гэтую дробязную аперацыю толькі дзве тысячы рублёў, бабулька выказала ўслых сваё рэзюмэ-"разуме": "Як пры гальштуку, дык усё задарма".

Ужо пазней задумаўся над філасофіяй сказанага. "Гальштук" старэнькая атаясамлівала з "новымі беларусамі", для якіх зусім нічога не значыць і мільён, і два, і тры... У рэстаранах не столькі "спальваюць", як і ў бензабаках сучасных аўто.

Аб сабе "новыя" добра паклапаціліся. Хто прыгадае, успомніць старэнькую бабульку і да яе падобных? Хто паклапоціцца аб іх старасці з годнасцю, каб не зводзілі канцы з канцамі і на сучаснае жыццё змаглі б глядзець праз празрыстае шкло, а не праз трэшчыны-расколіны, якія так нагадваюць нашу рэчаіснасць?

**Вітольд БАРАВІЦКІ.**



**Спорт**

## За крок да фіналу

У паўфінал першага этапа Беларуска-расійскай серыі сатэлітаў, што праходзіць на кортах мінскага Палаца тэніса, выйшлі чатыры прадстаўнікі нашай краіны.

Два ігракі зборнай Беларусі — Аляксандр Швец і Яўген Міхееў — сустрэліся ў 1/4 фіналу адзіночнага турніру. Саапернікі, якія дасканала ведаюць магчымасці і стыль гульні адзін аднаго, правялі вельмі напружаны паядынак — у першым сэце Швец перамог з лікам 6:3, затым яго візаві зраўнаваў вынік, выйграўшы з лікам 6:4. Усё вырашылася ў трэцяй партыі, у якой Швец аказаўся больш удачлівым, — зноў 6:3, і агульная перамога ў матчы — 2:1. Сапернікам беларуса за выхад у фінал турніру з прызавым фондам 25 тысяч долараў будзе француз Максім Бое. У чвэрцьфінале ён абыграў Дзмітрыя Тамашэвіча (Узбекістан) — 6:4, 6:4. Другую пару паўфіналістаў склалі Маркус Хантшчк (Германія) — Андрэй Сталяроў (Расія).

У парным разрадзе ў паўфіналах сустрэнуцца: Яўген Міхееў — Аляксандр Самец (абодва — Беларусь) — Вацлаў Дуда — Мілан Трнена (абодва — Чэхія). Другі паўфінал будзе інтэрнацыянальным — Уладзімір Валчкоў (Беларусь) з французам Бое згуляюць супраць пары Хантшчк — Нікас Карагіяніс (Грэцыя).

**Ігар ХАДАСЕВІЧ, БелТА.**



**Дзень у гісторыі**

## 29 ліпеня

У 1856 годзе памёр у псіхіятрычнай лякарні нямецкі кампазітар Роберт Шуман, які за два гады перад гэтым звар'яцеў і спрабаваў утапіцца ў Рэйне. А ў 1890 годзе праз два дні пасля спробы застрэліцца памёр таксама псіхічна хворы галандскі мастак Вінсент Ван Гог.

У 1883 годзе нарадзіўся Беніта Амількарэ Андрэа Мусаліні — заснавальнік фашысцкай партыі і прэм'ер-міністр Італіі ў 1922—1943 гадах.

У 1927 годзе выйшаў першы нумар газеты "Рабочий" (з 2 кастрычніка 1937 г. — "Советская Белоруссия").

У 1937 годзе адбыўся пленум ЦК КП(б)Б з удзелам прыбыўшых з Масквы загадчыкаў аддзелаў ЦК ВКП(б) Г.Малянкова і Я.Якаўлева, пасля якога пачаліся масавыя арышты дзяржаўных і партыйных кадраў Беларусі. Толькі ў жніўні па абвінавачванню ў антысавецкай і шкодніцкай дзейнасці былі асуджаныя 2750 чалавек.

У 1948 годзе ў Лондане адкрыліся XIV Алімпійскія гульні, якія мусілі пачацца яшчэ ў 1940 годзе, але з-за другой сусветнай вайны былі адкладзеныя.

У 1965 годзе ў Мінску адкрыўся планетарый, абсталяваны спецыяльнай апаратурай для дэманстрацыі руху зорнага неба і палёту касмічных караблёў.

У 1977 годзе ў Мінску быў заснаваны Беларускі навукова-даследчы інстытут кардыялогіі, які даследуе магчымасці дыягназаваць і лячыць хваробы сэрца матэматыкай і электронікай.

У 1981 годзе спадчыннік англійскага трону прынц Чарльз ажаніўся з ледзі Дыянай Спенсер. Цырымонію ў лонданскім саборы св.Паўла назіралі 700 млн. тэлегледачоў.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ.**

**По Сеньке шапка?..**

## О чем будут спрашивать преподаватели студента Всеволода Янчевского?

Возглавив Белорусский патриотический союз молодежи, Всеволод Янчевский ни преминул позвонить в редакцию. Представившись в новом качестве, попросил пригласить одну молодую сотрудницу для... "дачи" первого интервью именно "Народной воле". Так мы оказались первой из газет, с которой пожелал пообщаться молодежный вождь.

Об этом я вспомнил, перечитывая размышления Всеволода Вячеславовича о средствах массовой информации в одной из "юных" газет. Тронули меня, признаюсь, высказывания Янчевского о "так называемых" свободных масс-медиа: "...Узнаешь о себе и БПСМ такое, что просто диву даешься — откуда берется столько фантазий?.."

Оказывается, в их организации никогда не было сына Титенкова и он сам не тусуется "постоянно" у Александра Григорьевича. Не сослался, правда, на конкретное издание, кто тиражирует подобные факты. Зато "Народную волю" вспомнил по другому поводу: газета "беспокоится о том, кто за меня сдаст экзамены...".

Смею уверить молодого и перспективного Всеволода Янчевского, что эта проблема редакцию вовсе не занимает. А такую мысль высказал его же, Янчевского, коллега — студент Андрей Н. из Гродненской области, который хорошо знает, прочувствовал на собственной шкуре, что значит совмещать учебу с работой. Для него это действительно стало проблемой.

Для Янчевского же, чье имя на слуху, а кипучая титаническая деятельность на виду, подобное "совмещение", поверьте, не отразится (существенно!) на успеваемости. А может, явится еще новым стимулом к... "добавочным" баллам при сдаче экзаменов за четвертый курс, потом пятый, при защите диплома... Поскольку из "дополнительных" вопросов у экзаменаторов (все из того же любопытства) по всем предметам заранее припасен один: что нового в молодежной политике на нынешнем этапе? А "новое явление" сегодня, разумеется, сам Янчевский. Поэтому диалог обещает быть содержательным, а оценочный балл — только высшим.

Для убедительности и подтверждения этих предположений сошлюсь на хорошо известные мне факты. Скажем, в годы учебы в университете моим сокурсником (со второго курса) был еще тогда известный шахматист Виктор Купрейчик. И ученые мужи, принимая экзамен, всегда интересовались новостями в Федерации шахмат. В Военно-политической академии в Москве, где я также учился, посещение любого экзамена слушателями Петром Климуком и Владиславом Третьяком превращалось в... праздник для преподавателей, чтобы поговорить "за жизнь" и о проблемах дальнейшего освоения космоса, и о грядущих победах наших хоккеистов. И "белой вороной" среди именитых выглядел Герой Советского Союза Валерий Очиров. Вертолетчик-"афганец", он даже первые два курса пытался скрывать, что есть у него Золотая Звезда — высшая боевая награда. И на экзамены ходил без оной, даже две "тройки" умудрился получить. Пока не "раскусили" и не сделали внушение за... нарушение военной формы одежды. Но и со Звездой Героя Очиров продолжал и продолжает оставаться скромным, хотя и известным.

Янчевский же от скромности не умрет. Взять хотя бы такой его пассаж: "Государственные СМИ относятся к нам благожелательно, хотя, откровенно говоря, публикаций могло быть и больше. Нам есть о чем сказать".

Чего-чего, а самоуверенности у молодого дарования Янчевского (пусть простит Всеволод за вольный стиль) с избытком. Еще ничего не сделал, а уже есть что сказать! Так и хочется заметить "подающему первые надежды вождю", что сказать могут и другие. Кто станет дело делать? Был у нас уже лидер, предупреждавший: "Не заболтать бы перестройку!" И, поверьте, заболтал. То ли от частого употребления фразы, то ли от не менее частых велеречивых выступлений, то ли от появившейся неустанной и негасимой потребности "хоть что-нибудь сказать". А вот с делом натяжка вышла...

Янчевский хочет все время быть на виду. Не исключаю и того, что вскоре он приобретет к тому же имидж пламенного публициста. И наверняка в будущем станет лауреатом Шолоховской премии. Благо, пример, достойный для подражания, есть...

Чего не замечает Всеволод — это критики. Минчанка Н.Котвицкая не один десяток строк адресовала первому секретарю БПСМ, суть которых в рекомендации: "Уступи место достойному, не дискредитируй своей личностью движение, президента, страну. Время выскочек и глупых карьеристов прошло".

Как созвучны эти слова размышлениям "того", гродненского, студента Андрея Н., напечатанным в "Народной воле": "Он, на мой взгляд, не молодежный лидер, а хамелеон и карьерист. К тому же периодически противоречит сам себе и постоянно, по поводу и без повода, подчеркивает, какой у нас хороший президент. Если он лидер, то должен вести за собой молодежь, а не петь дифирамбы вышестоящим".

Какова реакция Янчевского на нелицеприятные отзывы? "Я придерживаюсь такого принципа: чем сильнее ругают противники, тем лучше мы работаем". Всеволод Янчевский, как видите, хулу приемлет равнодушно. Зато жаждет славы. Любой...

**Виктор СВИРКО.**

